Гужалоўскі, А. А. Аб рэвалюцыйным і эвалюцыйным падыходах у музейнай справе Беларусі ў XX ст. / А. А. Гужалоўскі // Працы гістарычнага факультэта БДУ: навук. зб. Вып. 4 / рэдкал.: У. К. Коршук (адк. рэд.) [і інш.]. — Мінск: БДУ, 2009. — С. 229–234.

***А. А. ГУЖАЛОЎСКІ***

# АБ РЭВАЛЮЦЫЙНЫМ І ЭВАЛЮЦЫЙНЫМ ПАДЫХОДАХ У МУЗЕЙНАЙ СПРАВЕ БЕЛАРУСІ Ў XX ст.

Усе найважнейшыя падзеі еўрапейскай гісторыі XX ст., так ці інакш, звязаны з узнікненнем і падзеннем таталітарных і аўтарытарных рэжымаў. Нягледзячы на тое, што гэты перыяд яшчэ не скончыўся, тэндэнцыя сёння зразумелая: новая Еўропа пойдзе па дэмакратычнаму шляху. Але нам яшчэ трэба засвоіць урокі таталітарных эксперыментаў, якія закранулі ўсе бакі жыцця грамадства, у т. л. музейную справу. Дзеля таго, каб вызваліцца ад прынцыпаў таталітарызму ў музейнай справе, каб пачаць будаваць яе на прынцыпах дэмакратыі, трэба дакладна зразумець, ад чаго і дзеля чаго мы адмаўляемся.

Сцвярджэнне, што музей быў, ёсць і будзе аб’ектам культуры, створаным грамадствам па сваім сацыяльным заказе, не з’яўляецца новым. Музей заўсёды, на працягу ўсёй сваёй шматвяковай гісторыі, развіваецца на аснове вядучых крытэрыяў нейкага грамадства альбо пэўнага этапу яго развіцця. У яго фарміраванні адлюстраваны вядучыя тэндэнцыі ўсіх галін жыцця: ідэалагічнай, палітычнай, эканамічнай, навуковай і мастацкай. Ён можа развівацца толькі як сацыякультурны інстытут, які адказвае на сацыяльны заказ грамадства і адлюстроўвае яго ў сваёй арганізацыі, прынцыпах, структурах і функцыях. Эвалюцыяніруючы ў сваім гістарычным развіцці, музей мае важную для яго ўдасканальвання здольнасць назапашваць і сінтэзіраваць папярэдні вопыт, не губляючы яго пры чарговай змене, а перапрацоўваючы і ўключаючы ў новае формаўтварэнне ў якасці падмурка. Рэвалюцыйныя змены перапыняюць культурную традыцыю, адкідваюць папярэдні вопыт, прапануючы наватарскія музейныя праекты.

Звычайна даследчыкі фіксуюць стабільныя гістарычныя тыпы музеяў, амаль не звяртаючы ўвагі на пераходы паміж імі. Гэта тлумачыцца тым, што музей з’яўляецца кансерватыўнай установай, інстытутам гістарычнай памяці, які забяспечвае стабільнасць у грамадстве. Але, калі музей не абнаўляецца, не змяняецца, ён губляе сувязь з жыццём, жывой культурай свайго часу. На тэарэтычным узроўні гэта азначае, што абмеркаванне рэвалюцыйных змен і працэсу эвалюцыі ў музейнай галіне гэтак жа важна, як вывучэнне функцыяніравання музея ў стабільным рэжыме.



На жаль, у айчыннай літаратуры падобныя паняцці амаль не атрымалі развіцця. Аднак даследаванні некаторых замежных аўтараў непасрэдна выходзяць на гэтую праблему і дазваляюць разглядаць музейную справу ў дынаміцы, абмяркоўваць характэрныя для яе інавацыйныя механізмы і шляхі, якімі крочаць перамены. У Канадзе гэта працы Дункана Камерона [4], у Англіі — кнігі Кенета Хадсана, у якіх гутарка ідзе пра «тэндэнцыі» і «ўплывы» ў свеце музеяў [5], у Польшчы — працы Ежы Свецымскага аб мадэрнізацыі музейных экспазіцый [6].

Здольнасць розных структурных элементаў музея змяняцца розная. Да найбольш стабільных элементаў адносяцца музейныя будынкі (у т. л. помнікі архітэктуры) і фондавыя калекцыі, бо задача музея — захаванне іх у нязменным выглядзе. Значна больш рухомым элементам з’яўляецца стацыянарная экспазіцыя, якая маральна і фізічна старэе праз кожныя 30 гадоў. Яшчэ больш кароткі жыццёвы цыкл музейных выставак. Рэвалюцыйныя і эвалюцыйныя змены ў музеях закранаюць не толькі будынкі, калекцыі і экспазіцыі, але таксама маюць чалавечае вымярэнне. У рэшце рэшт, людзі (музейныя прафесіяналы і публіка) укладаюць у рэчы сэнс, пераўтвараючы іх у помнікі гісторыі і культуры. Чалавечыя ўстаноўкі, адносіны да рэчаў, паводзіны, лад мыслення, сістэма каштоўнасцей з часам змяняюцца. Таму аналіз перспектыў змен музейнай справы павінен уключаць аналіз свядомасці людзей, незалежна ад таго, працуюць яны ў музеі альбо бавяць у іх вольны час. Працэс мадэрнізацыі музейнай справы ідзе рознымі тэмпамі і са сваімі асаблівасцямі ў розных рэгіёнах (былых сацыялістычных краінах і саюзных рэспубліках), у сталічных і правінцыйных, старых і маладых музеях. На тэмпы і характар гэтага працэсу ўплывае не толькі ўрадавая культурная палітыка, але і грамадская культурная ініцыятыва.

Напэўна, няма сэнсу паглыбляцца ў гісторыю і пачынаць абмеркаванне праблемы рэвалюцыйнага і эвалюцыйнага падыходаў з часоў заснавання першага беларускага публічнага музея — Віленскага музея старажытнасцей, створанага графам Я. Тышкевічам у 1856 г. З іншага боку, наўрад ці варта браць у якасці кропкі адліку, скажам, 1985 г. — фармальную дату пачатку перабудовы: дзеля таго каб зразумець сённяшнюю сітуацыю, неабходна прасачыць яе больш глыбокія карані.

Пачатак XX ст. быў «залатым стагоддзем» музейнай справы Беларусі. У той час музейныя праекты абмяркоўваліся, друкаваліся, ажыццяўляліся (большасць з іх сёння забытыя, нягледзячы на тое, што

прагучалі б вельмі актуальна). Развіццё музейнай справы на беларускіх этнічных землях ішло інтэнсіўна і, што асабліва важна, натуральна, гэта



значыць, музейныя праекты здзяйсняліся па ініцыятыве людзей зацікаўленых, якія лічылі іх справай свайго жыцця. Гэта надавала музейным праектам каштоўнасць і асэнсаванасць [1].

Кастрычніцкая рэвалюцыя паклала канец натуральнаму развіццю музейнай справы і распачала радыкальныя рэвалюцыйныя змены ў гэтай галіне. Усе музеі былі нацыяналізаваны, з’явілася вялікая колькасць рэчаў, якія згубілі сваіх законных гаспадароў і папярэднія сацыякультурныя функцыі. Гэта была царкоўная маёмасць, калекцыі з рэзідэнцый арыстакратаў і дамоў гарадской інтэлігенцыі. Размеркаванне гэтай маёмасці стала важнай часткай працэсу арганізацыі музейнай сеткі БССР. У першае дзесяцігоддзе савецкай улады сітуацыя была ў значнай ступені ліберальнай. Нягледзячы на тое, што музеі знаходзілся пад татальным кантролем дзяржавы, магчымасці для творчай дзейнасці заставаліся, а галоўнае — заставаліся людзі, здольныя яе ажыццяўляць. Іх можна падзяліць на дзве групы: аўтары наватарскіх музейных праектаў і традыцыяналісты, якія імкнуліся захаваць у музеях рэшткі традыцыйнай культуры, якой па-за музейнымі мурамі пагражала татальнае знішчэнне.

Да канца 1920-х гг. перыяд пошукаў і эксперыментаў скончыўся. Музей быў канчаткова пераўтвораны ў інструмент прапаганды. Музейныя супрацоўнікі павінны былі дзейнічаць альбо па загадах, альбо адпаведна «навуковым рэкамендацыям», распрацоўка якіх стала галоўнай задачай музеязнаўства. Дзяржаўныя органы кіраўніцтва культурай распрацавалі рэвалюцыйны план развіцця музейнай справы, які выключаў любую самастойную дзейнасць музейных устаноў. Кожны музей павінен быў працаваць як фабрыка, а музейныя супрацоўнікі — як рабочыя, якія выконваюць набор аперацый, але не ўдзельнічаюць у праектаванні канчатковага прадукту. Тое самае патрабавалася ад наведвальнікаў, якія аглядалі музей групамі адпаведна папярэдне распрацаванаму плану «арганізацыі вольнага часу працоўных». Гэтых умоў было дастаткова, каб музей функцыяніраваў як інструмент прапаганды. Заставалася толькі ўкласці ў яго нейкі сэнс, размясціўшы ў пэўнай паслядоўнасці словы і рэчы, каб музейная экспазіцыя адпавядала агульнапрынятай дактрыне. Такім чынам, рэвалюцыя абумовіла з’яўленне таталітарнага музея як неабходнага элемента дзяржаўнай палітыкі ў галіне культуры. Парадаксальным чынам міжваенны перыяд гісторыі музейнай справы, які распачаўся эксперыментамі і інавацыямі, скончыўся стагнацыяй і дагматызмам [2].

Айчынныя музеі пасляваеннага перыяду да сярэдзіны 1980-х гг. працягвалі адлюстроўваць усе тэндэнцыі і калізіі сацыяльнага жыцця краі-



ны. Пафас афіцыйнай ідэалогіі неслі і дэкларавалі буйныя фундаментальныя музеі з пампезнай архітэктурай, вялікімі бюджэтамі і штатамі супрацоўнікаў. Да іх ліку адносіліся Белдзяржмузей гісторыі Вялікай Айчыннай вайны, Дзяржаўны музей БССР і інш. У той жа час пераважная большасць правінцыйных краязнаўчых музеяў знаходзілася ў старых, так званых «прыстасаваных» будынках, заціснутая паміж жорсткімі ўстаноўкамі і рэгламентацыямі, мізэрнымі асігнаваннямі, што рабіла з іх братоў-блізнят.

Найбольш прагрэсіўныя і смелыя навацыі ў музейнай практыцы былі ўласцівы мастацкім і літаратурным музеям, як найбольш інтэлектуальным і найменш ідэялагізаваным. Яны спрабавалі змяніць усталяваныя стэрэатыпы, абапіраючыся на ўласны творчы патэнцыял і энтузіязм. Істотным было і тое, што гэтыя музеі мелі найбольшую інфармацыю пра развіццё музеялогіі за мяжой, міжнародныя кантакты і абмены. У 1960—1970-я гг. у часы музейнага буму гэтыя музеі зведалі ўвесь яго цяжар, гэтаксама як і пік цікавасці, ды і не праяўлялі ініцыятывы. Дырэктары музеяў, разглядаючы перабудову як чарговае змяненне ідэалагічнай кан’юнктуры, чакалі інструкцый адносна таго, якая павінна быць перыядызацыя савецкай гісторыі ці пра якія экалагічныя праблемы дазволена распавядаць у прыродазнаўчых экспазіцыях.

На мяжы 1980—1990-х гг. дамінантай грамадскай свядомасці стала абвостранае пачуццё праўды, і музеі ўжо з цяжкасцю маглі ўхіляцца ад таго, што разумелася як іх прамы абавязак, — ад бескампраміснага прад’яўлення нескажонай гістарычнай праўды. Дзеля таго каб узнавіць свой пахіснуўшыся прэстыж, было ўжо дастаткова адкрыць фонды, бо да таго часу значная частка калекцый ніколі не дэманстравалася публіцы. Аднак намаганні музеяў, накіраваныя на дэмантаж дагматычных падыходаў, заставаліся даволі сціплымі. Да жніўня 1991 г. многія былі схільны гэта тлумачыць наяўнасцю партыйнай цэнзуры. Потым гэта тлумачылася адсутнасцю грошай. Часта можна пачуць думку, што музей у прынцыпе павінен прытрымлівацца нейтральнай лініі і не ўдзельнічаць у спрэчках вакол вострых пытанняў, нават калі яны тычацца гісторыі і культуры.

Тым не менш можна сцвярджаць, што музеі Беларусі на шляху эвалюцыйнага развіцця за апошняе дваццацігоддзе дасягнулі пэўных поспехаў. Да апошніх трэба аднесці зацвярджэнне музейнай педагогікі (як самастойнага напрамку музейнай дзейнасці), якая прыйшла на змену «навуковай прапагандзе». Важныя крокі былі зроблены на шляху наладжвання камп’ютэрнага ўліку фондавых калекцый і іх прэзентацыі ў

сетцы Інтэрнэт. У галіне экспазіцыйнага праектавання ў апошні час паспяхова рэалізавана шэраг мадэрнізацый стацыянарных экспазіцый і часовых выставак. У 1998 г. пачаў дзейнічаць Беларускі нацыянальны камітэт Міжнароднага савета музеяў. Нарэшце, у 1996 г. (у 2005 г. у новай рэдакцыі) быў прыняты Закон «Аб музейным фондзе і музеях Рэспублікі Беларусь».

Адзначаючы дасягненні ў павышэнні прафесійных стандартаў дзейнасці музеяў Беларусі, трэба звярнуць увагу на працэс дэмакратызацыі, які ўжо пачаўся ў беларускіх музеях, але яшчэ далёкі ад завяршэння. Што яму перашкаджае? На нашу думку, сённяшняя замкнутасць музеяў, непадрыхтаванасць многіх з іх да змен абумоўлена ў значнай ступені слабасцю музейнай прафесіі. Музейны супрацоўнік звычайна насцярожана ставіцца да дыялогу з прадстаўнікамі іншых прафесій. І не таму, што ў яго ёсць свая дакладна акрэсленая філасофія і праграма дзеянняў, а таму, што гэтай філасофіі і праграмы ў яго няма. Ён не падрыхтаваны да супрацоўніцтва, бо не ўпэўнены, што зможа ўзаемадзейнічаць з іншымі прафесіяналамі на роўных. Прасцей кажучы, ён напалоханы перспектывай «згубіць уласны твар».

Магчыма, гэта гучыць крыўдна, але сітуацыя, за рэдкімі выключэннямі ў сталічных музеях, склалася такім чынам, што музейныя супрацоўнікі не ганарацца сваёй работай, не лічаць яе прэстыжнай, і імкнуцца да таго, каб іх успрымалі як вучоных (гісторыкаў, археолагаў, этнографаў, мастацтвазнаўцаў), але не як музейных супрацоўнікаў. Гэта цалкам зразумела, калі ўзяць пад увагу, што супольнасць навукоўцаў падзелена, адпаведна навуковым дысцыплінам, на цэхі. Але цэха музейных супрацоўнікаў Беларусі ў гэтым сэнсе няма. У іх няма пачуцця прафесійнага, цэхавага братэрства, няма магчымасці фармуляваць уласныя прафесійныя праблемы, не кажучы пра тое, каб іх абмяркоўваць і вырашаць. Няма ўласнай арганізацыі, няма друкаванага органа і, — адпаведна, пачуцця локця і прафесійнай абароненасці. Як вынік — яны адхілены ад справы, якой займаюцца, не адчуваюць адказнасці за яе вынікі. Пераадоленне дадзенай сітуацыі з’яўляецца адной з ключавых задач мадэрнізацыі музеяў і дэмакратызацыі музейнай справы краіны.

Дзеля таго каб музей эвалюцыяніраваў у сапраўдны дэмакратычны інстытут, на нашу думку, неабходна засяродзіць увагу на наступных ключавых аспектах яго развіцця:

1. Розныя формы ўласнасці, якія б забяспечылі «шматукладнасць» у музейнай справе, у адрозненне ад сучаснай сітуацыі — амаль поўнай дзяржаўнай манаполіі.



2. Дзяржаўнае фінансаванне на конкурснай аснове канкрэтных музейных праектаў у спалучэнні з прыцягненнем прыватных інвестыцый і самазабеспячэннем.

3. Музейныя асацыяцыі і прафесійныя аб’яднанні музейных супрацоўнікаў, якія дзейнічаюць на добраахвотнай, узаемакарыснай аснове.

4. Назіральныя Рады, якія выконваюць у структуры музеяў функцыю «парламента», пры якім дырэктар і адміністрацыя выконваюць ролю «выканаўчай улады».

5. Часовыя творчыя калектывы, якія ствараюцца для распрацоўкі і рэалізацыі музейных праектаў і праграм.

6. Таварыствы «сяброў музеяў», якія аб’ядноўваюць актыўную частку публікі, калекцыянераў, мецэнатаў і іншых партнёраў, якія зацікаўлены ў дзейнасці музея.

Здаецца, тут, як і ў іншых сферах жыцця, спадзявацца трэба на новае пакаленне. Але, каб яно з’явілася, трэба выпрацаваць зусім іншы светапогляд, новую мову прафесійных зносін, новую філасофію музея, новыя прынцыпы і каштоўнасці музейнай справы, несумяшчальныя з таталітарнай альбо аўтарытарнай ідэялогіяй. Новы, вольны, дэмакратычны музей — гэта перш за ўсё новая свядомасць тых, хто ў ім працуе. Стварэнне ўмоў для гэтага — найважнейшая задача сучаснай беларускай музеялогіі.

**ЛИТЕРАТУРА**

1. *Гужалоўскі, А. А.* Нараджэнне беларускага музея / А. А. Гужалоўскі. Мінск: НАРБ, 2001. 106 с.

2. *Гужалоўскі, А. А.* Музеі Беларусі. 1918—1941 / А. А. Гужалоўскі. Мінск: НАРБ, 2002. 176 с.

3. *Гужалоўскі А. А.* Музеі Беларусі. 1941—1991 / А. А. Гужалоўскі. Мінск: НАРБ, 2004. 192 с.

4. *Cameron, D. F.* The Museum, a Temple or the Forum / D. F. Cameron // Curator. 1971. Vol. XIV. № 1. P. 11—24.

5. *Hudson, K.* Museums of Influence / K. Hudson. Cambridge, New York: Cambridge Univ. Press, 1987. 220 p.

6. *Swiecimski, J.* Ekspozycja muzealna, jej wartoc informacyjna i artystyczna / J. Swiecimski // Muzealnictwo. 1998. № 40. S. 97—111.